Фамін, В.М. Выкарыстанне кадэтамі Дзяржаўнай думы ў барацьбе за ўладу (лета 1915 г. — люты 1917 г.) / В.М. Фамін // Працы гістарычнага факультэта БДУ : навук. зб. Вып. 5 / рэдкал.: У. К. Коршук (адк. рэд.) [і інш.]. — Мінск : БДУ, 2010. — С. 225-237.

**В.М. Фамін**

# ВЫКАРЫСТАННЕ КАДЭТАМІ ДЗЯРЖАЎНАЙ ДУМЫ Ў БАРАЦЬБЕ ЗА ЎЛАДУ (лета 1915 г. — люты 1917 г.)

Наступіўшая ў пачатку XX ст. паласа рэвалюцыйнага крызісу ў Расіі прывяла не толькі да пашырэння ліберальнаапазіцыйнага руху ў краіне, але і да пераходу яго на якасна новы этап развіцця. Пры гэтым асноўная ідэя лібералізму — ажыццяўленне свабоды асобы — захоўвалася. А вось яго асноўны метад — не творчая дзейнасць, не стваральнасць, а ўстраен не ўсяго таго, што пагражае існаванню індывідуальнай свабоды, пераш каджае яе развіццю [1, с. 1], — зазнаў істотны зрух да радыкалізму.

Зразумела, гэта не тычылася ліберальнай апазіцыі у цэлым, таму што адзінства поглядаў і дзеянняў у яе ніколі не было. Рэвалюцыя ж 1905— 1907 гг. паскорыла працэс фарміравання плыняў у ліберальным руху. А стварэнне розных палітычных партый (кадэцкай, акцябрысцкай, прагрэсіцкай і інш.) са сваімі праграмамі і статутамі азначала замаца ванне тых разыходжанняў, якія існавалі ў гэтым руху.

Найбольш уплывовай і ў той жа час радыкальнай як у гады рэвалю цыі, так і ў паслярэвалюцыйны перыяд у ліберальным асяроддзі была кадэцкая партыя. Ужо ў ходзе рэвалюцыі яе лідэры, і перш за ўсё П. М. Мілюкоў, дапускалі магчымасць ненасільнай палітычнай рэвалю цыі і змены палітычнага рэжыму ў краіне. Пасля рэвалюцыі, ва ўмовах існавання думскай манархіі, апазіцыйнасць кадэтаў прыняла больш памяркоўны характар. Аднак праграмнае палажэнне аб магчымасці па літычнай рэвалюцыі з мэтаю ліквідацыі самадзяржаўя ў іх захоўвалася. Таму ўлады адмаўлялі кадэцкай партыі ў яе рэгістрацыі да самай Лю таўскай рэвалюцыі.

Што тычыцца вядучай у трэцяй і чацвёртай Дзяржаўнай думе партыі акцябрыстаў, дык яна ўвогуле лічылася ўрадавай. Аднак усё крута змяні лася ў гады Першай сусветнай вайны. Цяжар вайны, абвастрэнне ўнут рыпалітычнага становішча і непрадбачнае катастрафічнае паражэнне рускай арміі на фронце ў 1915 г. прывялі да росту незадаволенасці ва ўсіх пластах насельніцтва. Менавіта на гэтай хвалі адбыліся перамены ў настроях і паводзінах расійскіх лібералаў. Замест лаяльнасці і падтрымкі ўрада яны пачалі групавацца і аб'ядноўвацца дзеля поўнага падпарад кавання Дзяржаўнай думе і пазбаўлення цара ўладных паўнамоцтваў.



У выніку адбылося рэзкае абвастрэнне палітычнага крызісу ў краіне, вы нікам якога з'явілася адрачэнне Мікалая II ад трона.

Немалаважную ролю ў разгортванні гэтэх падзей адыграла кансты туцыйнадэмакратычная партыя. І хаця падзеі гэтыя адышлі ў нябыт, пытанне аб месцы і ролі расійскіх ліберальных колаў ва ўсім, што адбы валася ў той час, і зараз захоўвае як навуковы, так і грамадскапалітыч ны інтарэс. Літаратура па гэтай праблеме надта шырокая, але не менш шырокім застаецца і роскід поглядаў і падыходаў да яе вырашэння. Да таго ж падыходы гэтыя за амаль стогадовы адрэзак часу неаднаразова змяняліся нават у адных і тых жа аўтараў. Хаця ўвогуле савецкая гіста рыяграфія нязменна прытрымлівалася ленінскай канцэпцыі аб контр рэвалюцыйнасці расійскага лібералізму як падчас рэвалюцыі 1905— 1907 гг., так і Лютаўскай 1917 г. Для прыкладу можна прывесці такія агульнавядомыя фундаментальныя працы, як: «Исторический опыт трех российских революций» [2], «История Великого Октября» [3], «27 фев раля 1917» [4] і інш. Таму

адказ на пытанне аб месцы ліберальнай апазі цыі ў вызваленчым руху дарэвалюцыйнай Расіі неабходна шукаць у пер шую чаргу ў першакрыніцах. Хаця веданне зробленага папярэднікамі і яго ўлік з'яўляюцца важнай перадумовай паглыблення навуковага по шуку. Найбольш істотным дасягненнем па гэтай праблеме постсавец кай расійскай гістарыяграфіі з'явіўся адыход шмат якіх гісторыкаў ад панаваўшай у ёй ленінскай канцэпцыі аб контррэвалюцыйным харак тары ліберальнаапазіцыйнага руху ў Расіі ў канцы XIX — пачатку XX ст. і прызнанне за ім прагрэсіўнай ролі ў агульнанароднай барацьбе з са мадзяржаўем. Канешне, за гэтым не стаіць адкрыццё ў гістарычнай на вуцы. Важнасць гэтага змяшчаецца ў тым, што шматлікія сучасныя гісто рыкі вярнуліся да сапраўды навуковых прынцыпаў у асвятленні гісто рыі, якія аказаліся несумяшчальнымі з панаваўшым у савецкай гіста рыяграфіі бальшавіцкапартыйным класавым падыходам.

Працамі такога кшталту з'яўляюцца «Россия в начале XX века» [5], «Политическая история: Россия — СССР — Российская Федерация» [6], «Русский конституционализм XIX столетия» [7], «Государственная дума Российской империи 1906—1917 гг. : историкоправовой очерк» [8], «Красная смута. Природа и последствия революционного насилия» [9] і інш. Сярод работ такога кшталту асабліва неабходна адзначыць ма награфію Ф. А. Гайды «Либеральная оппозиция на путях к власти (1914 — весна 1917 г.)» [10]. У ёй зроблены дастаткова поўны аналіз літа ратуры па тэме, а ў яе высновах справядліва адзначаецца, што «прабле ма адносін рускага лібералізму да ўлады і рэвалюцыі з'яўляецца, бадай



што, найбольш важнай для гістарыяграфіі ў цэлым. Аднак для яе сап раўды навуковага вырашэння неабходна адмовіцца ад надта падманлі вых азначэнняў, якія выяўляюцца ў катэгорыях рэвалюцыйнасць / контррэвалюцыйнасць, ад аднясення ўсіх асаблівасцей ліберальнага руху на яго класавую прыроду» [10, с. 15]. Гэта азначае, што для вызначэння сапраўднай пазіцыі лібералаў у пытанні аб уладзе напярэдадні і падчас Лютаўскай рэвалюцыі патрабуецца прынцыпова новы падыход. У яго аснове павінны быць прынцыпы гістарызму, аб'ектыўнасці, перавагі агульначалавечых каштоўнасцей над партыйнакласавымі, карпаратыў нымі і г. д.

Мэтаю дадзенага артыкула з'яўляецца высвятленне на падставе ана лізу дакументаў партыйных з'ездаў і канферэнцый кадэцкай партыі, а таксама літаратурных крыніц таго, як, застаючыся на ліберальных пазі цыях негвалтоўных метадаў барацьбы за ўладу, кадэты на справе пасп рыялі рэвалюцыйнаму выбуху ў краіне, а лідэрам рэвалюцыі нечакана аказалася Дзяржаўная дума.

Рубяжом, з якога падзеі ў краіне пачалі развівацца па большасці сва ёй у накірунку да набліжэння рэвалюцыі, з'явілася лета 1915 г. Найбольш яскравым і пагрозлівым сведчаннем уступлення краіны ў паласу небяс печнага падчас вайны ўнутрыпалітычнага крызісу з'явілася парушэнне «свяшчэннага яднання» грамадства і ўрада, якое склалася ў краіне ў па чатку вайны.

Прычынамі гэтага сталі неспрыяльныя падзеі як у ходзе ваенных дзе янняў, так і ў сацыяльнаэканамічнай сферы за мінулы год вайны. Са вецкія і шмат якія постсавецкія гісторыкі на першае месца прычын, якія вызначылі ўступленне краіны з канца лета 1915 г. у паласу ўнутрыпалі тычнага крызісу, ставяць сур'ёзныя паражэнні рускай арміі ў вайне ў гэтым годзе. Зразумела, ваенная кампанія 1915 г. прынесла самыя не прадбачныя наступствы. У вясеннелетніх бітвах супраць аўстрагер манскіх войскаў расійская армія пацярпела сакрушальную паразу. У вы ніку баёў расійская кадравая армія амаль поўнасцю была выведзена са строю. З пачатку вайны страты склалі каля 3,5 млн чалавек забітымі, параненымі і палоннымі [11, с. 550]. Нягледзячы на ўпорныя абарон чыя баі, руская армія вымушана была адступаць. Толькі ў пачатку каст рычніка 1915 г. наступленне

аўстрагерманскіх войск было спынена. У выніку Польшча, Галіцыя, частка тэрыторыі Украіны, Беларусі, Прыбалтыкі былі акупіраваны ворагам.

Такія неспрыяльныя падзеі ваеннай кампаніі 1915 г. суправаджаліся пагаршэннем сацыяльнаэканамічнага становішча краіны. Са стратай

227

тэрыторыі заходніх рэгіёнаў скараціўся вытворчы патэнцыял, паколькі не ўсе прамысловыя і іншыя прадпрыемствы ўдалося эвакуіраваць, а для аднаўлення дзейнасці эвакуіраваных на новых месцах патрэбны былі час і вялікія намаганні. Становішча ўскладнялася тым, што значная колькасць насельніцтва тэрыторый, якія сталі арэнай баёў, пакідала свае месца жыхарства і накіроўвалася ў Цэнтральную Расію. Колькасць бе жанцаў (нярэдка па прымусу ваеннага камандавання) перавысіла па афіцыйных дадзеных 3 млн чалавек, а па неафіцыйных — іх было каля 6 млн [12, с. 581]. Усё гэта ўскладняла сацыяльнаэканамічнае станові шча ў краіне і адмоўна ўплывала на палітычную стабільнасць.

Але ж пры ўсім тым трэба мець на ўвазе, што само паражэнне расій скай арміі ў 1915 г. у значнай ступені стала вынікам дрэннага яе ваенна тэхнічнага забеспячэння. А гэта, у сваю чаргу, было вынікам як непад рыхтаванасці эканомікі да вайны, так і нездавальняючай яе працай пад час вайны.

Такім чынам, паражэнні расійскай арміі ў кампаніі 1915 г. прывялі да пагаршэння сацыяльнаэканамічнага становішча ў краіне, аднак пры чыны гэтага змяшчаліся ў няздольнасці ўрада перабудаваць эканоміку ў адпаведнасці з патрабаваннямі вайны і забяспечыць армію ўсім неаб ходным для яе вядзення. Гэта апошняе і стала матывацыяй абуджэння апазіцыйнасці ліберальнага руху, і перш за ўсё праз Дзяржаўную думу, якую кадэты выкарыстоўвалі для ўзнаўлення свайго пабляклага за час вайны палітычнага прэстыжу. Разгортваючы апазіцыйную кампанію ў Думе, кадэцкія лідэры спадзяваліся таксама аднавіць і саму партыю, якая ў арганізацыйным плане набліжалася да поўнага распаду. Найбольш актыўна дзейнічалі Петраградскі і Маскоўскі камітэты, якія выступалі ў якасці партыйных цэнтраў. Большасць жа мясцовых камітэтаў пераста ла існаваць, а сувязь Цэнтральнага Камітэта з тымі, што працягвалі лічыцца дзеючымі, насіла ўмоўны характар, у выглядзе нерэгулярнай перапіскі. Пры такіх умовах аднаўленне апазіцыйнай дзейнасці, пры чым публічна, праз Дзяржаўную думу, стала адзіна магчымым шляхам аднаўлення і партыі, і яе прэстыжу ў вачах грамадства. А паколькі сама Дума ў гэты час не дзейнічала, будучы распушчанай царскім указам на нявызначаны тэрмін, галоўным для думскіх ліберальных колаў стала барацьба за яе скліканне. Менавіта гэтае патрабаванне паклала пачатак аб’яднанню большасці дэпутатаў Думы ў адзіны блок, што выявілася ўжо на іх сходзе 22 мая і нарадзе 4 чэрвеня 1915 г. [10, с. 82].

Аднак для кадэтаў важным было не толькі аб’яднанне большасці дэ путатаў у апазіцыйны блок, але і ўстанаўленне ў ім уласнага лідэрства.

228

Наўпрост ім тут нічога не свяціла, паколькі актыўныя прыхільнікі бло ка — прагрэсісты — прапанавалі лозунг у якасці галоўнага патрабаван ня стварэнне «адказнага ўрада». Гэта было праграмнае патрабаванне кадэцкай партыі з часоў яе ўтварэння ў 1905 г. Але летам 1915 г. расклад сіл у Думе быў такім, што рэальны кантроль за гэткім будучым урадам непазбежна павінен быў бы апынуцца ў руках акцябрыстаў. Пагадзіцца з гэтым кадэцкія лідэры, і перш за ўсё П. М. Мілюкоў, ніяк не маглі, паколькі лічылі, што толькі канстытуцыйнадэмакратычная партыя ў стане перавесці Расію на дэмакратычны шлях развіцця. Таму, спасыла ючыся на несвоечасовасць такога лозунга падчас вайны, яны прапана валі лозунг «урада грамадскага даверу».

Хаця адзінства поглядаў аб адносінах Думы і ўрада ў кадэцкім ася роддзі не існавала, на пасяджэнні ЦК кадэцкай партыі 1 чэрвеня 1915 г. пазіцыя П. М. Мілюкова і яго прыхільнікаў была прызнана ў якасці агульнапартыйнай [10, с. 83]. Такім чынам, пытанне аб «адказным ура дзе» адсоўвалася да больш прыдатных для кадэтаў часоў. А для замаца вання гэтага курсу было прапанавана склікаць канферэнцыю канстытуцыйнадэмакратычнай партыі, якая адбылася 6—8 чэрвеня 1915 г. Парадак дня канферэнцыі прадугледжваў абмеркаванне цэлага шэрагу пытанняў, у тым ліку аб фінансавым становішчы ў краіне, аграрнае, аб вайне, цвярозасці і фінансах, яўрэйскае, аб праекце закона «Аб ладзе Царства Польскага», аб палітычным становішчы ў краіне і інш. [13, с. 13].

Пытанні, вынесеныя на абмеркаванне, сведчаць аб тым, што гэтым кадэцкая партыя імкнулася паказаць перш за ўсё сваё дачыненне да ак тыўнага ўдзелу ў вырашэнні злабадзённых для краіны праблем. Хаця пры гэтым заведама было бачна, што для іх вырашэння партыя не мела ніякіх магчымасцей, да таго ж большасць з іх ва ўмовах вайны ўвогуле не магла быць выканана. Перад партыяй паўстала задача адкрыта за явіць аб змене свайго палітычнага курсу, а менавіта, аб пераходзе ад бе зумоўнай падтрымкі ўрада, якая вызначылася ў пачатку вайны, да яго крытыкі і нават супрацьстаяння. Праз абмеркаванне гэтых пытанняў лідэрам партыі ў цэлым удалося дасягнуць пастаўленай мэты.

Так, у дакладзе аб фінансавым становішчы ў краіне А. І. Шынгароў сканцэнтраваў увагу на рэзкім росце дарагоўлі жыцця. За 10 месяцаў вайны цэны на разнастайныя спажывецкія тавары падняліся ад 5 да 50 %. Гаворачы пра прычыны гэтай вялізнай сацыяльнай з’явы, дакладчык на першае месца паставіў няздольнасць урада «… зразумець новыя аб ставіны жыцця і прыняць апераджальныя меры; наадварот, яго разгуб ленасць і паспешлівыя непрадуманыя распараджэнні толькі ўносілі глы-



бокую дэзарганізацыю ў гаспадарчае жыццё краіны» [13, с. 14]. Даклад чык імкнуўся паказаць, што дарагоўля жыцця ў гады вайны была выз вана вельмі складаным узаемадзеяннем шэрагу глыбокіх гаспадарча эканамічных, фінансавых і палітычных фактараў. Для дзяржавы яна мела вялізнае значэнне, паколькі з’яўлялася сур’ёзнай пагрозай сацыяльна му міру і захаванню спакою і парадку ў тыле. Поспех барацьбы з такой з’явай бачыўся ім у аб’яднанні ўсіх сіл дзяржавы і планамернасці іх пра цы. Уносілася ў сувязі з гэтым прапанова аб стварэнні адзінага для імпе рыі органа, які павінен быў бы рэгуляваць усе пытанні, звязаныя з пра дуктовым забеспячэннем насельніцтва [13, с. 17—18].

Такім чынам, крытыка ўлады па гэтым лёсавызначальным пытанні практычна насіла канструктыўны характар, а шляхі яго вырашэння звяз валіся з прыцягненнем да гэтай справы грамадскіх арганізацый (зем скага і гарадскога саюзаў, саюзаў капператыўных установ) і шырокіх слаёў насельніцтва. Тое ж самае назіралася і ў дакладах па іншых пытаннях. Такі падыход адпавядаў поглядам большасці кіраўніцтва кадэцкай партыі і яе лідэра П. М. Мілюкова ў іх адносінах да лозунга «ўрада грамадскага даверу». Аднак значная частка дэлегатаў канферэнцыі, асабліва прад стаўнікоў мясцовых камітэтаў, дамагаліся пераходу партыі да больш ра дыкальных метадаў барацьбы, а галоўным палітычным лозунгам, лічылі яны, павінна стаць патрабаванне адказнага перад Думай урада. Таму рашаючым на канферэнцыі стала пытанне аб палітычным становішчы ў краіне, з дакладам па якім выступаў П. М. Мілюкоў. Падводзячы базу пад неабходнасць аднаўлення апазіцыйнай дзейнасці кадэцкай партыі, спыненай з пачаткам вайны, ён звяртаў увагу на тое, што за першыя дзесяць месяцаў вайны ўрад сваімі дзеяннямі прывёў да аслаблення друж нага яднання насельніцтва і яго патрыятычнага ўздыму, а ў пытаннях дзяржаўнай абароны выявіў поўную няслушнасць. Галоўнай прычынай гэтага, на яго

думку, з’явілася працягванне даваеннай урадавай палітыкі недаверу да грамадскіх сіл і грамадскага пачыну [13, с. 121].

У сувязі з гэтым для дасягнення ранейшай мэты — падтрымання ба дзёрасці і волі да перамогі ў арміі і насельніцтве — партыя кадэтаў па вінна была звярнуцца да новых спосабаў дзеяння. І тут першым і галоў ным сродкам прызнаваўся неадкладны сазыў Дзяржаўнай думы для га лоснага грамадскага кантролю над урадам. Пры гэтым з урада павінны быць выведзены асобы, якія не апраўдалі давер краіны, і заменены заслугоўваючымі такі давер [13, с. 126—127].

Пераход кадэтаў ад падтрымкі ўрада да адкрытай апазіцыі практыч на быў вымушанай мерай, скіраванай перш за ўсё не на ўратаванне стра-



ны, а самой кадэцкай партыі. Як сведчаць выступленні многіх дэлега таў канферэнцыі, у тым ліку і члена ЦК Д. І. Шахоўскага, у партыі па наваў недапушчальны ўнутрыпалітычны і арганізацыйны разброд, па дзенне прэстыжу ў краіне і грамадстве. Ісці ў народ з мэтаю арганізацыі яго на барацьбу з урадам і забяспечыць такім чынам поўнамаштабнае адраджэнне дзейнасці партыі кадэты, натуральна, не маглі. Гэта пярэ чыла іх ліберальным прынцыпам дзеяння. Таму і П. М. Мілюкоў, і яго прыхільнікі сярод лідэраў партыі ўсе надзеі на правядзенне неабходных пераўтварэнняў у палітычным ладзе Расіі паранейшаму звязвалі з Дзяр жаўнай думай. Вынікам канферэнцыі з’явілася ўмацаванне пазіцыі П. М. Мілюкова як лідэра партыі. На канферэнцыі даволі выразна вы явілася прычына адыходу кадэцкіх лідэраў ад патрабаванняў «адказна га міністэрства» і замены яго патрабаваннем «міністэрства грамадскага даверу». П. М. Мілюкоў і Ф. Ф. Какошкін адзначалі, што ў цяперашні час «адказнае міністэрства» магло быць толькі праваакцябрысцкім, а кадэты пры гэтым непазбежна заставаліся б у цяні. Да таго ж ужо ў чэр вені — ліпені цар, жадаючы супакоіць насельніцтва і палепшыць стано вішча спраў ва ўрадзе, адправіў у адстаўку найбольш адыёзных міністраў: ваеннага міністра В. А. Сухамлінава, міністра ўнутраных спраў Н. А. Ма клакова, міністра юстыцыі І. Г. Шчэглавітава і оберпракурора свяцей шага сінода. Пры такіх умовах пытанне аб патрабаванні Думай «адказ нага міністэрства» некалькі губляла сваю вастрыню, і акцябрысты вы рашылі адкласці яго да заканчэння вайны. У выніку тактычныя лозунгі кадэтаў і акцябрыстаў аказаліся тоеснымі, а таму і стаў магчымым іх тактычны саюз. Галоўным для іх у гэты час стала патрабаванне датэр міновага склікання Думы, каб з яе дапамогай дабіцца ўрада «грамад скага даверу».

А тым часам 19 ліпеня 1915 г. адкрылася Дзяржаўная дума. Яна не ўнесла змен у пазіцыях, якія займалі ліберальныя партыі да яе адкрыц ця. У цэнтры работы Думы аказалася пытанне аб Кабінеце грамадскага даверу. Прапанова прагрэсістаў аб выстаўленні ў якасці галоўнага дум скага патрабавання — «адказнага ўрада» не знайшла падтрымкі боль шасці членаў Думы. Прайшла прапанаваная акцябрыстамі і падтрыма ная кадэтамі формула Кабінета грамадскага даверу [8, с. 505—506]. За яе прагаласавалі таксама нацыяналісты, правыя, г. зн. абсалютная боль шасць Думы. Гэта і была першая прыкмета аб’яднання думскіх фрак цый у «Прагрэсіўны блок». Аднак шлях да яго рэальнага афармлення на аснове выпрацоўкі адзінай міжблокавай праграмы дзейнасці ў Думе пралягаў праз упартую міжпартыйную і міжфракцыйную барацьбу. Ста-



новішча спрашчалася тым, што формула «міністэрства грамадскага да веру» ва ўсіх адносінах заставалася неакрэсленай, і кожны з прыхільні каў думскага блока бачыў у ёй тое, што жадаў бачыць. І нават прагрэсіў нае крыло Савета Міністраў пагаджалася з такой формулай, таксама як і Дзяржаўнага Савета (У. І. Гурко, У. М. Какоўцаў і інш.).

Такім чынам, невызначанасць формулы «міністэрства грамадскага даверу» пакідала ўсім бакам свабоду манеўру, аднак у поўнай меры яна была выкарыстана толькі кадэтамі. Яны саступілі некаторым пунктам праграмы, але ж уцягнулі іх у барацьбу за ўладу [10, с. 125]. Праграма блока была апублікавана 25 жніўня 1915 г. і змяшчала ўмераныя і здаро выя прапановы «стварыць аб’яднаны ўрад з асоб, якія карыстаюцца да верам у краіне і згодныя з заканадаўчымі ўстановамі адносна выканан ня ў бліжэйшы тэрмін пэўнай праграмы», у прыватнасці: строгага пра вядзення асноў законнасці ў кіраванні; амністыі па рэлігійных і палі тычных справах (за выключэннем шпіёнаў і здраднікаў); аўтаноміі Польшчы, прымірыцельнай палітыкі ў адносінах меншасцей, у тым ліку яўрэяў; свабоды прафсаюзаў і рабочага друку; рэформы земскага і га радскога самакіравання, утварэнне валаснога земства [12, с. 597]. Апуб лікаванне кадэтамі Праграмы блока без узгаднення з іншымі яго ўдзель нікамі і іх згоды сведчыла, што ісці на саюз з уладай і весці на гэты конт з ёю закулісныя перагаворы яны не былі гатовыя. Сваім адкрытым зва ротам з Праграмай блока яны ўвогуле зрывалі ўсялякія перагаворы і за ваёўвалі аўтарытэт у вачах патрыятычна настроенай грамадскасці. Ад маўленне кадэтаў ад выкарыстання «Прагрэсіўнага блока», які ўяўляў сабой аб’яднанне абсалютнай большасці дэпутатаў Думы і значнай часткі членаў Дзяржаўнага Савета, ад супрацоўніцтва з урадам азначала поўную безадказнасць іх палітычнага курсу. Фактычна «Прагрэсіўны блок» пад мілюкоўскім лідэрствам, адвяргаючы канструктыўнае супра цоўніцтва з урадам, поўнасцю прадухіляў арганічную палітычную рэ форму і ў той жа час не ў стане быў не дапусціць шырокай сацыяльнай рэвалюцыі. Такая кадэцкая тактыка зрабіла іх закладнікамі той «пуга чоўшчыны», якую яны заўсёды адвяргалі.

Са свайго боку ўрад, і перш за ўсё яго старшыня І. Л. Гарамыкін, лічыў «Прагрэсіўны блок» аб’яднаннем часовым, а яго распад непаз бежным. Да таго ж парламентская кааліцыя, якая ўключала прадстаў нікоў Думы і Дзяржсавета, сама па сабе бачылася «незаконнай». Таму хаця частка міністраў і выказвала гатоўнасць працаваць разам з «Пра грэсіўным блокам» над вырашэннем «шматлікіх праблем краіны», І. Л. Гарамыкін так не лічыў. Ён прапанаваў Мікалаю II для змягчэння



ўнутрыпалітычнай сітуацыі думскую сесію спыніць, а непаслухмяных міністраў звольніць.

Кадэцкая тактыка захавання з дапамогаю «Прагрэсіўнага блока» па літычны статускво ў краіне да тых часоў, калі для прыходу да ўлады кадэцкай партыі выспяюць неабходныя ўмовы, дазваляла ўладам дзей нічаць, не звяртаючы ўвагі на блок. У выніку 3 верасня 1915 г. дэпутатам Думы, якія сабраліся на абмеркаванне падрыхтаваных блокам пытан няў, быў абвешчаны царскі маніфест аб прыпыненні яе дзейнасці ўмоў на да лістапада. А ў хуткім часе адбылося і звальненне міністраў, якія падтрымлівалі палітыку «Прагрэсіўнага блока»: унутраных спраў князя Н. Б. Шчарбатава, земляробства А. В. Крывашэіна, оберпракурора свя цейшага сінода А. Д. Самарына (апошні адкрыта выступаў супраць Рас пуціна).

Такім чынам, безадказнасць палітычнага курсу канстытуцыйнадэ макратычнай партыі ў якасці лідэра «Прагрэсіўнага блока» спалучалася з безадказнасцю палітычнага курсу ўрада. Іх адказ ад узаемадзеяння з мэтаю правядзення неабходных рэформ ствараў у краіне тупіковую сіту ацыю, выхад з якой ва ўмовах вайны ўсё больш станавіўся магчымым толькі праз сацыяльную рэвалюцыю з непрадбачнымі вынікамі. Таму менавіта тут і трэба шукаць у першую чаргу адказ на пытанне: хто, не будучы прыхільнікам рэвалюцыі, на справе рабіў яе не толькі верагод най, але і непазбежнай. Далейшыя падзеі ў краіне, якія разгортваліся ў 1916 г., і дзеянні ўлады і ліберальнай апазіцыі на чале з думскім «Праг рэсіўным блокам» дазваляюць знайсці адказ на гэтае пытанне.

Нягледзячы на тое што палажэнне на фронце ў гэтам годзе застава лася адносна стабільным, а расійская армія змагла ў асноўным аднавіць сваю баяздольнасць, унутрыпалітычны крызіс у краіне ў выніку ўпартага супрацьстаяння думскай ліберальнай апазіцыі і ўлады працягваў паг лыбляцца. А разам з гэтым у барацьбу за паляпшэнне ўмоў існавання ўцягваліся ўсё больш шырокія масы насельніцтва.

Кадэцкае кіраўніцтва ў гэтых умовах прызнала неабходным забяс печыць згуртаванне партыі, пераадолець у ёй разыходжанні, якія выз начыліся паміж левай і правай плынямі па пытаннях партыйнай так тыкі ў гады вайны, хутчэй вярнуць былы аўтарытэт партыі. Для гэтага вырашана было тэрмінова склікаць з'езд партыі, чаго не рабілася на працягу 8 гадоў (згодна статуту ў партыі з'езды павінны былі праводзіцца штогод). У адпаведнасці са статутам з'езд павінен быў афіцыйна вызна чыць палітычную лінію Цэнтральнага Камітэта і ўсёй партыі, а галоў нае — намеціць шляхі ажыўлення і актывізацыі дзейнасці партыі. Гэта



сведчыла, што лідэры партыі бралі курс на падрыхтоўку партыі да не пазбежнай змены палітычнага рэжыму ў краіне.

Сваю работу з'езд пачаў 18 лютага 1916 г. Са справаздачай аб дзей насці партыі за 8 гадоў выступіў сакратар ЦК А. А. Карнілаў. Ён адзна чыў, што немагчымасць штогадовага правядзення з'ездаў партыі была звязана з адказам у 1908 г. уладамі ў яе легалізацыі. Урад такім спосабам імкнуўся выпіхнуць кадэцкую партыю ў падполле [13, с. 203]. Гэта стала адной з прычын арганізацыйнага развалу партыі, падзення яе ролі ў гра мадскапалітычным жыцці краіны. Неабходнасць тэрміновага адра джэння партыі і ўключэння яе ў актыўнае палітычнае жыццё была вык лікана перш за ўсё тым, што ва ўмовах зацяжной вайны ў Расіі зноў за маячыў прывід новай рэвалюцыі. У той жа час у абставінах, якія склалі ся, дасягненне пастаўленай мэты пралягала перш за ўсё праз актывіза цыю дзейнасці партыі ў Дзяржаўнай думе. Гэта з'явілася галоўным у дакладзе аб тактыцы партыі падчас вайны, з якім выступіў на з'ездзе П. М. Мілюкоў. У прыватнасці, ён адзначыў, што «з часоў I Дзяржаўнай думы кадэты не былі яшчэ ў такім становішчы, у якім яны апынуліся зараз, пры наяўнасці блока і магчымасці заканадаўнічаць у складзе боль шасці палаты» [13, с. 259]. Прапанаваная на з'ездзе праграма блока свед чыла аб тым, што кадэты спадзяваліся на магчымасць ажыццяўлення з дапамогаю Думы глыбокіх пераўтварэнняў у краіне, якія неабходны для ўсталявання ў Расіі дэмакратычных форм кіравання.

У адносінах да ўрада, які ўзначальваў В. В. Шцюрмер, і дакладчык, і выступаючыя лічылі неабходным працягваць супраць яго барацьбу. Ра зыходжанні ў асяродку дэлегатаў з'езда ўзніклі толькі па пытанні аб пат рабаваннях «міністэрства грамадскага даверу» альбо «адказнага міністэр ства». Большасць апошняе патрабаванне прызнала несвоечасовым, па колькі яно мела на ўвазе пераход функцый фарміравання і падсправаз дачнасці ўрада ад імператара да Думы [13, с. 259]. Гэта азначае, што на першым этапе існавання «Прагрэсіўнага блока» кадэты імкнуліся вы карыстоўваць яго выключна ў мэтах паглыблення і развіцця парламен тарызму. Гэта адпавядала іх канцэптуальнай пазіцыі ненасільнага звяр жэння самадзяржаўя і замены яго дэмакратычным ладам.

Аднак хуткае ўзмацненне леварадыкальнага кірунку ў вызваленчым руху непазбежна штурхала ўлева і кадэтаў, і «Прагрэсіўны блок», які яны ўзначальвалі.

Гэта дастаткова выразна вызначылася ўжо на канферэнцыі кадэц кай партыі 22—24 кастрычніка 1916 г. З дакладам аб палітычным стано вішчы ў сучасны момант выступіў П. М. Мілюкоў. Ён зазначыў, што

харчовае пытанне ў краіне знаходзіцца ў катастрафічным стане. Разу менне наступстваў прадуктовага крызісу выклікала неабходнасць аб' яднання ўсіх грамадскіх і дэмакратычных сіл для арганізаванай барацьбы з няздатным урадам [13, с. 795]. У той жа час ён сцвярджаў, што пар ламенцкія формы барацьбы для канстытуцыйнадэмакратычнай партыі застаюцца нязменнымі. Аднак большасць дэлегатаў з'езда, у тым ліку і частка членаў ЦК, з гэтым не пагадзіліся. Дэлегаты, якія прадстаўлялі правінцыяльнае грамадства, рашуча крытыкавалі П. М. Мілюкова, аб вінавачваючы яго ў падладжванні да ўрада [13, с. 795].

Большая частка дакументаў канферэнцыі не захавалася, але най больш істотныя звесткі аб ёй змяшчаюцца ў паліцэйскім данясенні. У ім адзначаецца, што «Мілюкоў цэнтр цяжару барацьбы бачыць у парла менцкай барацьбе з урадам, «правінцыялы» ж лічаць неабходным пера несці цэнтр цяжару ў арганізацыю мас, у збліжэнні з палітычнымі гру памі, якія стаяць лявей, у больш рашучай барацьбе з урадам не толькі на парламенцкай глебе, але пры дапамозе разнастайных грамадскіх ар ганізацый» [13, с. 357].

Адносна агульнага настрою, які склаўся на гэтай канферэнцыі, князь П. Д. Даўгарукаў у дакладзе на пасяджэнні Маскоўскага камітэта кан стытуцыйнадэмакратычнай партыі зрабіў вывад, які быў блізкі да ісціны: «Дадзеная канферэнцыя, магчыма, з'явіцца апошняй спробай весці барацьбу з урадам у парламенцкіх рамках — урад сам усімі сіламі штурхае канстытуцыйных дэмакратаў на непажаданы ім рэвалюцыйны шлях і на блок падчас маючых адбыцца выбараў у Дзяржаўную думу з крайне левымі элементамі» [13, с. 358].

На справе так яно і было. Канферэнцыя аказалася апошняй — да Лютаўскай рэвалюцыі больш яна не склікалася. Што ж тычыцца па водзін кадэтаў падчас рэвалюцыі, дык гэта вызначалася не столькі ра шэннямі кіруючых органаў партыі, колькі самой сітуацыяй, што скла лася ў Петраградзе і ва ўсёй краіне ў лютым 1917 г. Вырашальную ж ролю адыгрывалі паводзіны лідэраў партыі, і перш за ўсё П. М. Мілюкова, які ачольваў думскі «Прагрэсіўны блок».

Народны рух, які пачаўся ў Петраградзе 23 лютага 1917 г. на глебе харчовага крызісу, да 26га ўжо набыў характар паўстання. У яго аснове ляжала падабенства агульнай сацыяльнай істэрыі. Аднак пад уздзеян нем прапаганды крайне левых яно хутка набыло палітычны характар з накіраванасцю супраць існуючай улады.

У думскіх жа колах спадзяваліся, што гэтыя хваляванні вымусяць уладу пайсці ім насустрач. Таму, замест таго каб аб'яднаць намаганні ў



сумеснай барацьбе для стабілізацыі становішча ў краіне, Савет міністраў і Дзяржаўная дума выкарысталі сітуацыю, якая склалася, для высвят лення супярэчнасцей паміж сабою і адстойвання сваіх інтарэсаў. А між тым ужо 27 лютага сітуацыя ў Петраградзе поўнасцю выйшла зпад кан тролю ўлады, якая не прыняла своечасова неабходных мер, каб падавіць салдацкі бунт і прымусіць насельніцтва да захоўвання парадку.

У такіх умовах і ўдзельнікі паўстання, і шмат якія палітычныя партыі, і нават Стаўка ў Магілёве, і генералыкамандуючыя франтамі схіліліся да думкі, што толькі Дзяржаўная дума ў стане справіцца з сітуацыяй, супакоіць краіну і не дапусціць яе поўнага краху. Так Дума, у якой вер хаводзіў «Прагрэсіўны блок», а ў ім кадэты на чале з П. М. Мілюковым, нечакана для сябе, вымушана была ў якасці палонніка рэвалюцыі аб' явіць аб узяцці ўлады ў свае рукі. На справе ж рэальная ўлада ў Петра градзе ў гэты час ужо знаходзілася ў руках Петраградскага Савета рабо чых дэпутатаў на чале з эсэрам М. С. Чхеідзе.

Такім чынам, кадэцкая партыя, таксама, як і ўсе іншыя, да падрых тоўкі Лютаўскай рэвалюцыі ніякага прамога дачынення не мела. Аднак сваёй барацьбой за ўладу супраць дзеючага ўрада ў гады вайны яна са дзейнічала дэстабілізацыі ўнутрыпалітычнага

становішча ў краіне. У вы ніку, як адзначаў барон Н. Е. Врангель, «вялікая бязкроўная рэвалюцыя перамагла не сілаю пераможцы, а друзласцю пераможанага» [14, с. 32]. У агульнагістарычным кантэксце перамога Лютаўскай рэвалюцыі, вы нікам якой з'явіўся прыход да ўлады расійскіх лібералаў, стала рэальнай перадумовай прыходу да ўлады ў Расіі бальшавікоў. Менавіта гэта меў на ўвазе П. М. Мілюкоў, калі пісаў, што гісторыя пракляне пралетарыяў, але яна пракляне і нас, хто вызваў буру.

ЛІТАРАТУРА

1. Леонтович, В. В. История либерализма в России 1762—1914 гг. / В. В. Леонтович. М. : Русский путь — Полиграфресурсы, 1995. 550 с.
2. Исторический опыт трех российских революций. Кн. 1. Генеральная репетиция Великого Октября: Первая буржуазнодемократическая революция в России / Инт мар ксизмаленинизма при ЦК КПСС; редкол.: П. А. Голуб (глав. ред.) [и др.]. М. : Политиз дат, 1985. 575 с.; Кн. 2. Свержение самодержавия: Вторая буржуазнодемократическая ре волюция в России / Инт марксизмаленинизма при ЦК КПСС; редкол.: П. А. Голуб (глав. ред.) [и др.]. М. : Политиздат, 1986. 415 с.
3. Минц, И. И. История Великого Октября: в 3 т. / И. И. Минц. М. : Наука, 1977. Т. 1. Свержение самодержавия. 784 с.
4. Старцев, В. И. 27 февраля 1917 / В. И. Старцев. М. : Мол. гвардия, 1984. 255 с.
5. Россия в начале XX века / под ред. академика А. Н. Яковлева. М. : Новый хроно граф, 2002. 744 с.



6. Политическая история: Россия — СССР — Российская Федерация: в 2 т. М. : Тер ра, 1996. 656 с.
7. Гросул, В. Я. Русский консерватизм XIX столетия. Идеология и практика / В. Я. Гросул, Г. С. Итенберг, В. А. Твардовская, К. Ф. Шацило, Р. Г. Эймонтова. М. : Про грессТрадиция, 2000. 440 с.
8. Смирнов, А. Ф. Государственная Дума Российской Империи 1906—1917 гг. : Исто рикоправовой очерк / А. Ф. Смирнов. М. : Книга и бизнес, 1998. 624 с.
9. Булдаков, В. П. Красная смута. Природа и последствия революционного наси лия / В. П. Булдаков. М. : РОССПЭН, 1997. 376 с.
10. Гайда, Ф. А. Либеральная оппозиция на путях к власти (1914 — весна 1917 г.) / Ф. А. Гайда. М. : РОССПЭН, 2003. 432 с.
11. История СССР. Первая серия. Т. I—VI. С древнейших времён до Великой Ок тябрьской социалистической революции. Т. VI. Россия в период империализма 1900—1917 гг. М. : Наука, 1968. 854 с.
12. Пушкарев, С. Г. Россия 1801—1917: власть и общество / С. Г. Пушкарев. М. : По сев, 2001. 672 с.
13. Съезды и конференции конституционнодемократической партии: в 3 т. М. : РОССПЭН, 2000. Т. 3, кн. 1: 1915—1917 гг. 831 с.
14. Врангель, Н. Е. Воспоминания / Н. Е. Врангель. М. : Центрополиграф, 2006. 526 с.